NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 8 (52) БЕЛАСТОК, 24 ЛЮТАГА 1957 г. ГОД II

# У першую гадавіну дзейнасці Таварыства

Глыбока ў памяці астаўся дэлегатам першага арганізацыйнага З'езду дзень 26 лютага 1956 г., калі яны з'ехаліся і ад імя ўсяго беларускага насельніцтва пaклікалі да жыцця сваю арганізацыю — Беларускае грамадска - культурнае таварыства.

Думаем, што пасля гадовай дзейнасці Таварыства БГ-КТ, беларускае насельніцтва мае поўнае права запытацца ў кіраўніцтва Галоўнага Праўлення аб выніках гэтай дзейнасці.

Дзейнасць Беларускага грамадска - культурнага таварыства была накіравана ў трох асноўных напрамках: арганізацыйным, асветным і ў галіне пашырэння культурнага жыцця.

У маі і чэрвені 1956 г. сарганізавана шэсць Павятовых Аддзелаў: у Бельску - Падляскім, Гайнаўцы, Гарадку (Беластоцкі павет), Саколцы, Семятычах і ў Варшаве.

Членаў Таварыства маем дагэтуль невялікі лік — пакуль што не больш 1.000 асоб. Гэта сведчыць аб недастатковай нашай дзейнасці ў гэтым напрамку.

Праўда, што дагэтуляшняя вадлівасць арганізацыйнай структуры ў нашым статуце, дзе не гаварылася аб арганізацыі гурткоў, стварыла цяжкасці ў арганізацыйнай працы. 25 лістапада 1956 года адбыўся першы Пленум ГП, на якім пастаноўлена ўнесці папраўкі да статута і звярнута ўвагу на неабходнасць арганізавання гурткоў БГ-КТ.

У галіне асветы здзейсніліся жаданні беларускага насельніцтва ў Народнай Польшчы.

Сёння на Беласточчыне налічваецца 57 пачатковых беларускіх школ. У 111 школах беларуская мова навучаецца як прадмет. Маем 2 агульнаадукацыйныя беларускія ліцэі (у Гайнаўцы і Бельску - Падляскім), якія рыхтуюць кадры беларускай інтэлігенцыі. Агульнаадукацыйны ліцэй у Міхалове, дзе беларуская мова навучаецца, як прадмет.

У гэтым годзе больш 15.000 моладзі ў школьным узросце навучаецца беларускай мове.

Думаем, што ў наступным годзе колькасць школ, з навучаннем беларускай мовы павялічыцца. Гэта будзе ў далейшым залежыць ад працы Таварыства, а асабліва ад беларускай моладзі і самых бацькоў.

А калі разыходзіцца аб нашых настаўніках — таксама маем многа недахопаў, міма дапамогі асветных улад справа пакуль што не цалкам развязана.

Не хапае нам настаўнікаў з адпаведнымі педагагічнымі кваліфікацыямі.

У 1956/57 навучальным годзе Галоўнае Праўленне супольна з Міністэрствам асветы і Ваяводскім Аддзелам асветы ў Беластоку сарганізавала пры Настаўніцкай завочнай студыі ў Беластоку Аддзел беларускай філалогіі, дзе навучаецца 25 настаўнікаў беларускіх школ.

Неабходным было таксама пакліканне да жыцця пры Варшаўскім Універсітэце Кафедры беларускай філалогіі, якая 1 кастрычніка 1956 года распачала працу пад кіраўніцтвам прафесар Яблонскай.

У гэтым годзе навучаецца там 18 студэнтаў — пераважна беларуская моладзь Беласточчыны. Гэта кузня беларускай інтэлігенцыі, якая ў будучыні возьме на сябе адказнасць за развіццё беларускай культуры і асветы ў Народнай Польшчы.

Вялікую дапамогу праявіў урад БССР прысылаючы на кафедру беларускай філалогіі спецыялістаў: В. Т. Тарасава — па беларускай літаратуры і Н. Б. Бірылу па беларускай мове.

Таксама і ў галіне развіцця культурнага жыцця, маем дасягненні.

Згодна з пастановай З'езду, пры Галоўным Праўленні сарганізавана Беларускі мастацкі калектыў песні і танца.

Гэты малады мастацкі калектыў за кароткі перыяд сваёй дзейнасці ўжо да 9 лютага даў 10 канцэртаў між іншым у Крынках, Саколцы, Семятычах, Мілейчыцах і ў Гарадку, якія глядзела больш чым 3.500 асоб.

У сучасны момант Галоўнае Праўленне мае вельмі многа заяў ад беларускага і польскага насельніцтва Беласточчыны, у якіх насельніцтва запрашае наш калектыў на канцэрты да сваіх мясцовасцей.

Пры Галоўным Праўленні сарганізавана і тэатральны гурток, які ўжо 9 лютага г. г. першы раз выступаў на сцэне.

Аддзел Праўлення БГ-КТ у Варшаве таксама сарганізаваў беларускі мастацкі калектыў, які працуе ад лістапада мінулага года.

У сучасны момант адчуваецца вялікае імкненне беларускага насельніцтва да сваёй роднай мовы, песні і народнага танца.

Тут і нараджаецца неабходнасць арганізавання культурнага жыцця ў беларускіх асяроддзях.

Думаем, што ў гэтым выпадку трэба супольна з мясцовымі ўладамі і грамадскімі арганізацыямі выкарыстаць усе магчымасці, рэсурсы, і засобы, каб арганізаваць новыя гурткі, трэба таксама падумаць як ажыццявіць мастацкія гурткі, якія былі арганізаваны ў многіх мясцовасцях Беласточчыны.

На сённяшні дзень маем 5 павятовых, 49 грамадскіх бібліятэк і 342 бібліятэчных пунктаў (на вёсках) з беларускімі кніжкамі. Акрамя гэтага маем сарганізаваны 2 новыя бібліятэкі: пры ГП у Беластоку і Праўленні Аддзела ў Варшаве.

У сучасны момант у нас адчуваецца вялікі недахоп дзіцячай літаратуры, матэрыялаў для гурткоў мастацкай самадзейнасці і іншых.

У сувязі з гэтым пры ГП паўстаў выдавецкі камітэт, які ўжо распачаў сваю дзейнасць. Зараз рыхтуецца да выдання зборнік беларускіх песень, а таксама зборнік п'ес для гурткоў .

Багаты зборнік фальклору Беласточчыны падрыхтоўвае да выдання прафесар В. Т. Тарасаў. Будуць гэта матэрыялы збіраныя ў беларускіх вёсках студэнтамі беларускай філалогіі ў Варшаве і Настаўніцкай студыі ў Беластоку.

Адной з цікавых пазіцый, якія выдаюцца нашым выдавецтвам будуць апавяданні аб удзеле беларусаў у партызанскім руху на Беласточчыне .

Галоўнае Праўленне ўжо выдала п'есу пад загалоўкам «Паўлінка» — Янкі Купалы і Беларускі Каляндар на 1957 г.

Стараннем ГП і Аддзела Праўлення ў Варшаве радыёстанцыя «Край» — у Варшаве і радыёстанцыя ў Беластоку рэзервавалі па 30 мінут у месяц на праграмы на беларускай мове.

Гэта ўсё паможа нам шырэй чым дагэтуль пазнаёміць нашае насельніцтва з жыццём беларусаў у Польшчы і багатай беларускай культурай.

АЛЯКСЕЙ КАЗЕЛ
Сакратар БГ-КТ



*Беларускі жаночы хор з Гарадка.* *Фото — Ю. Лей.*



ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА






— Ты чуў, у мяне магазін абакралі?
— Віншую, цяпер ты напэўна дачу дабудуеш...

Мал. В. Швяцова (Вожык)

# ЛЯЧЭННЕ

Даведаўшыся, што сябра мой здарава запіў, я паспяшаўся наведаць яго. І вось тут, на добры момант трапіў. Мой сябра толькі што прапаўся пасля п'янкі і не паспеў яшчэ заглянуць у чвэртку.

Я выступіў з палымянай прамовай аб шкодзе п'янства, быццам мастак, кідаў нарысы страшэнных вынікаў белай гарачкі, а на заканчэнне, гледзячы проста ў вочы свайго сябра я сказаў: — Дай чэснае слова, што ад сённяшняга дня ні кропалькі водкі не вып'еш.

— Не магу — выдушыў з сябе сябра.

— Ах, так! — Тады пі воцатную эсэнцыю, сольную кіслату, — закрычаў я.

Сінія, па дзіцячаму наіўныя вочы сябра так пакорна глядзелі на мяне, што я не вытрымаў гэтага позірку. Схапіў сябра за руку і падабраўшы станоўчы голас сказаў: — Адзявайся, пойдзем!

— Куды? — спытаў азадачаны сябра.

— Не кудыкай заўчасна, — сказаў я накладаючы яму на лоб шапку.

Праз хвіліну мы йшлі па вуліцы, а калі ўжо падыйшлі да вялікага будынка, на якім была павешана невялікая чырвоная табліца з вялікімі буквамі: «Процівалкагольная амбулаторыя» я падштурхнуў сябра к пад'езду і абяцаў чакаць на вуліцы.

Сябра доўга невыходзіў. — Ці часам не папіве ён разам з доктарам? — падумаў я. Калі сябра выйшаў — ад яго павеяла нейкім такім пахам, быццам цыбулі, быццам — мяты. Пасля мой сябра, што другі дзень наведваў амбулаторыю. Курс лячэння працягваўся два тыдні.

Праз месяц я нейк ізноў зайшоў да сябра і застаў яго... п'яным. Пад сталом ляжала пустая поўлітровая бутэлька, а на стале — літроўка з водкай.

Калі я запытаў аб адбытым лячэнні — сябра махнуў рукою, быццам адганяючы мухі.

Потым я даведаўся, што ў будынку, дзе была амбулаторыя на першым паверсе жыў шавец, ён і навучыў майго сябра піць водку шклянкамі.

*Дзядзька Лявон*

З грузінскага гумару

## Ненавіснік кошак

У адзін з камісійных магазінаў увайшоў паважны чалавек і звярнуўся да прадаўца:

— У каго знаходзіцца кніга падзяк?

— Падзяк?

— Так, хачу запісаць падзяку.

— У нас-жа толькі кніга скаргаў, — адказаў прадавец, — калі жадаеце, я прынясу вам яе, і запішыце што хочаце.

— Не, не, ні ў якім разе, мне скардзіцца няма на каго...

— Так, але завошта вы падзяку хочаце запісаць? — пацікавіўся прадавец.

— Учора купіў я ў вас сыр, і яго пах так напалохаў суседскую кошку, што яна і блізка да нас не падыходзіць.



ЭД. КІПІЯНІ.

## У СУДЗЕ

— Ці маеш бацькоў? — пытаецца суддзя ў падсуднога.

— Як-жа ты не ведаеш? То-ж брыдка не ведаць, ці маеш бацькоў, ці не маеш.

— Так, то так, але да душы не ведаю. Бо яно гэтак было. Спачатку памёр мой бацька, а матка пайшла замуж за другога, пасля памерла матка, а мой новы бацька ізноў ажаніўся, так што не магу згадаць, ці ў мяне ёсць бацькі, ці не...

* * *

— Ці твая жонка ўмее варыць есці?

— Варыць то яна ўмее, толькі і не ўмею есці, таго, што яна нварыць.

## РАЗУМНЫ

Матка кажа свайму маламу сыну:

— Янучок, занясі ты гэту хустку і павесь на сонцы, хай прасохне.

Янычка пайшоў і праз мінуту вяртаецца:

— Ідзі ты сама вешай на сонцы, бо я да яго не дастану.

## У ШКОЛЕ

Вася пайшоў першы раз у школу.

— Ну як-жа табе спадабаўся настаўнік? — пытае бацька.

— Ён вельмі набожны — адказвае Вася.

— Адкуль ты гэта ведаеш.

— Бо па кожным маім адказе складаў рукі і гаварыў: «Божа, Божа!».

## ПРЫКАЗКІ і ПРЫМАЎКІ

**Дзеўка прыгожа, ды працы нягожа.**

**Што ў дзяцінстве выхаваеш, на тое ў старасці абапрэшся.**

**Гні дрэва, пакуль гнецца, вучы дзіцятка, пакуль слухаецца.**

**Дзе ў сям'і лад, там і дзеці добра гадуюцца.**

## Ажанілі мяне малалетняга

Запісаў Г. Т. Цітовіч




*Пяе мужчынская група:*

Ажані(ы)лі мяне
Эй! малале(э)тняга,
Малалетняга,
Ды малавумнага.

Тай далі(ы) мне жану
Эй! ды не па(а) любові...
Што ні белаліца,
Што ні чорны бровы.

Ды не ўме(э)е жана
Эй! ды ні жы(ы)та жаць.
Ды ні жыта жаць,
Ні снапа звязаць.

Як і звя(а)жа сноп,
Эй! сноп развя(а)жацца,
Як і скажа слаўцо,
Ды не наравіцца.

*Адказвае жаночая група:*

Ой, няго(о)дны ты муж,
Эй! ды ты сам такі:
Ні араць, ні касіць,
Ні грабель зрабіць.

Як і зро(о)біць граблі,
Эй, раскідаюцца,
Як наб'е касу,
Каса лапочацца.

Як наб'е(э) касу,
Эй! залапочацца.
Мне з такім мужыком
Жыць не хочацца.

## АДГАДАНКА



Гэтымі сцежкамі — ад літаркі, да літаркі дойдзем да закліку, які складаецца з 2 слоў.

Сярод чытачоў, якія да 10.III. г. г. прышлюць правільныя развязкі будзе разыграна 10 кніжак.

**Развязка адгаданкі з 3 нумара „Нівы"**

«ПАШЫРАЙЦЕ СВАЕ ВЕДЫ АБ РОДНАЙ МОВЕ».

Кніжныя ўзнагароды атрымалі:
1) Юрка Кузьмін — Лапы,
2) Уладзімір Корх — Войшкі,
3) Чэслаў Боўжык — Эльблонг,
4) Аляксей Прахорук — Плёскі,
5) Міхась Грыгарук — Бельск,
6) Мікола Корх — Дубічы - Царкоўныя,
7) Уладзімір Юзвюк — Плёскі.

Узнагароды высылаем поштай. Адначасова просім паведаміць рэдакцыю аб атрыманні іх.

## АГАФОН АБРОТКА РАСПАЎСЮДЖВАЕ




*Агафончык людзям радзіць:*
*— Дарагія цёткі, дзядзі.*
*Хай з вас кожны гаспадар*
*Мае родны каляндар.*

*Мілыя браты, сястронкі,*
*Паглядзіце на старонкі*
*Нашая чароўна мова*
*Усюды вабіць родным словам.*

*Есць тут вершы і парады*
*Як глядзеці ў зімку саду.*
*Есць і святы тут таксама —*
*Каталіцкі і праваслаўны.*

*Есць і гумар і абрады,*
*Кожны з яго будзе рады.*
*Есць прыказкі, анегдоты,*
*Каляндарчык за пяць злоты.*

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

Орган Беларускага грамадска культурнага таварыства ў Польшчы. Адрас рэдакцыі гор. Беласток, вул Маніфесту Ліпцовага 25, тэл 25-89. Умовы падпіскі на 3 месяцы — 7 зл. 80 гр., 6 месяцаў — 15 зл. 60 гр., на год — 31 зл. 20 гр. Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161 Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы, Выдавецтва РСВ «Праса». Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку. Т-13